 


# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — БЕЛАСТОК — ВІЛЬНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г.

*№ 6 (20)* *26 сакавіка — 1 красавіка 1993 г.* *Кошт 3 рублі*





# ВІНШУЕМ З ДНЁМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

## Грамата да беларускага народу

Браты-беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі й сяляне-земляробы, беларусы-ваякі, усе, каму дарагая воля і рэвалюцыя, усе, у якім гарыць і б ´еццa сэрца за правы й волю беларускага народу.

Грамадзяне ўсіх нашых народаў, якія жывуць на нашай зямельцы.

Прыйшоў момант, якога ні ведае гісторыя нашае многапакутнае зямлі. Воляй рэвалюцыі мы пастаўлены перад патрэбай сабраць усе жывыя сілы нашае Бацькаўшчыны дзеля абароны і ўтрыманьня нашых вольнасьцяў, здабытых крывёй мільёнаў сыноў пакрыўджанай, бяздольнай Беларусі.

У гэтыя дні належыць паказаць сапраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя ні дапусьціць, каб віхор бязладу згубіў нашую сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяў і правоў Беларускага Народу.

Браты-беларусы, працоўны народ, сыны зямлі й абаронцы вольнасьцяў Бацькаўшчыны. Злучыцеся ў адну згодную сям ´ю каля Вялікай Беларускай Рады, адкідаючы ад сябе сеючыя нізгоду паклічы і будзьце асцярожнымі ў сваіх дзеях. Толькі парадак і згоднасьць паміж усімі паможа нам утрымаць спакой у нашым краі, а еднасьць з войскам падыме дух і злучыць увесь народ.

Браты-беларусы. Вялікая Беларуская Рада, апіраючыся на Цэнтральную Вайсковую Раду, Беларускі Спаўняючы Камітэт Заходняга Фронту, на ўсе беларускія арганізацыі, верыць у сілу і мудрасьць беларускага народу, у руках каторага вялікая будучыня Вольнай Беларусі, воля, зямля і згода.

**Вялікая Беларуская Рада.**
**Часовая Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада.**
**Беларускі Спаўняючы Камітэт Заходняга Фронту.**
**Беларуская Сацыялістычная Грамада.**
**Беларуская Народная Партыя Сацыялістаў.**
**Менск-Беларускі.**
27 кастрычніка 1917 году.

## Пастанова Першага Усебеларускага Кангрэсу аб самавызначэньні і аб часовай краёвай уладзе

Усебеларускі Зьезд у колькасці звыш тысячы чалавекаў, прадстаўленых сялянствам, жаўнерамі, работнікамі і ўсімі дэмакратычнымі арганізацыямі цэлага краю, абмеркаваўшы цяжкі стан усяе Расейскае Дэмакратычнае Фэдэрацыйнае Рэспублікі й асабліва крытычны мамэнт для Беларусі, прызнаў за канечнае:

1. Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і зацьвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай Зямлі, для ўратаваньня роднага краю й захаваньня яго ад падзелу, 1-шы Усебеларускі Кангрэс пастанаўляе безадкладна ўтварыць з свайго складу ворган краёвае ўлады, які часова становіцца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай.



*• У пракуратуры*

## Антыбеларускія ўлёткі

Мы ўжо паведамлялі аб тым, што гарадзкія ўлады зьвярнуліся да абодвух пракурораў Горадні наконт магчымасьці распачаць крымінальную справу на падставе Палажэньня аб Дзяржаўным сьцягу Рэспублікі Беларусь супраць асобаў, якія распаўсюджваюць улёткі «Еще раз о флаге». 23 сакавіка мы даведаліся ў пракуратуры Ленінскага раёна аб тым, што па гэтай справе цяпер праводзіцца праверка. Аб выніках яе мы абавязкова паведамім.

**(спадар).**

## 73 гады «Пагоні»

Летась, дакладна год назад, 25 сакавіка ў Гарадзенскай вабласной друкарні быў адбіты першы нумар аднооўленай газэты «Пагоня». Выразна памятаю той момант, калі з-пад барабанаў друкарскай машыны выляцеў самы першы, яшчэ пробны паасобнік, а праз некалькі хвілін і ўвесь 2-тысячны тыраж. Падобныя падзеі робяцца ў жыцьці самымі важнымі.

Мінуў год, нашае выданьне набірае моцы, з красавіка стане штотыднёвым. А на наступнае паўгоддзе «Пагоню» можна будзе выпісаць па ўсёй Беларусі. Як вы ўжо заўважылі, мы акрэсьлілі абсягі газэты як — рэгіянальны агляд. Ня важна, што гэтыя тры гарады сёньня ў розных дзяржавах. На працягу стагоддзяў край жыў супольным жыцьцём, спачатку ў межах Вялікага Княства Літоўскага, а потым у складзе Рэчы Паспалітай, Беларусы заўсёды жылі тутака па-суседзку і па-сваяцку з палякамі ды летувісамі. Так павінна быць і цяпер. А мы будзьма паведамляць аб жытцы землякоў-беларусаў на Беласточчыне й Віленшчыне, а таксама шырэй — пра падзеі ў Польшчы й Летуве.

Вельмі даўно, у 1920 годзе газэта «Пагоня» выходзіла за 160 кіламэтраў адсюль, у Коўні. Паведамляла аб нашых беларускіх справах, аб міжнародных падзеях, друкавала зьвесткі пра вайну на Беларусі, пра Слуцкае паўстаньне супраць бальшавікоў. Мы адчуваем сябе прадаўжальнікамі справы той колішняй «Пагоні».

Цікавая рэч жыцьцё асобы, краіны, чалавецтва. Цікавыя паняцьці «сапраўдных каштоўнасьцяў», «гістарычнай справядлівасьці»... Колькі не рабілі зьдзеку з усяго беларускага, ня хлусілі, ня ганілі, не забаранялі, не заганялі ў рэзэрвацыю рэшткі беларушчыны, дазволеныя афіцыйна, працэджаныя цераз ідэялягічную цэнзуру, але ўсяму праўдзіваму заўжды наканавана адрадзіцца. Жыве сёньня Беларусь, жывуць яе дарагія сымболі, жыве адзіная ў Горадні беларуская газэта «Пагоня».

Адно непакоіць, што няма пэўнасьці ў заўтрашнім дні. Наша газэта будзе існаваць, калі будзе існаваць наша дзяржава... Люксембургская дзяржаўнасьць не залежыць ад змаганьня за ўладу ў суседніх Францыі або Нямеччыне. У нас з гэтым інакш. Мы з трывогай прыглядаемся да падзей ва ўсходняга суседа. Яму таксама хочацца ў Эўропу... пратаптаць дарогу па нас або зноў замкнуць у сваёй вязьніцы. Экспарт справа някепская, калі экспартуюць «Рэно» і кока-колу, а не рэвалюцыі, тэрор і голад. Варвары заўсёды пачыналі свой шлях з Усходу, потым атабарваліся ў Эўропе й рабіліся, дапусьцім, немцамі. Крывічы прыйшлі сюды з Захаду, колішняя эўрапэйскасьць шкодзіць ім дагэтуль... Але ня варта забывацца, што надзея гіне апошняй. Мару, каб да наступных сваіх угодкаў «Пагоня» абавязкова павялічыла тыраж і кола сваіх чытачоў.

**Рэдактар.**
**25 сакавіка 1993 г.**

*• Палітычная сцэна*

## Алег Трусаў: Ніколі не паважаюць тых, хто баіцца

**12 сакавіка ў Горадні адбылася сустрэча грамадзкасьці са старшынём Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады народным дэпутатам Беларусі сп. А. Трусавым і народным дэпутатам Беларусі спн. Г. Сямдзянавай. У сустрэчы браў удзел таксама кіраўнік справамі БСДГ сп. М. Кійка. Спадар Трусаў меў нядоўгую прамову аб палітычным становішчы ў краіне, сьцісла зьмест якой зьмяшчайма ніжэй.**

... Паводле амэрыканскага часопіса «Тайм» летась Беларусь з Латвіяй па ўзроўні дабрабыту сярод былых савецкіх рэспублік апынуліся першымі. Аднак калі ў Латвіі напоўніцу адбываюцца рэформы гаспадаркі, дык у нас існуе глыбокі крызіс улады і пагаршаецца стан эканомікі. Рэч у тым, што людзі, якія намі кіруюць, дагэтуль не усьвядомілі: ужо паўтары гады яны ўрадуюць у незалежнай краіне. Яны ўпарта адмаўляюць нашу дзяржаўнасьць, называюць краіну па-старому рэспублікай або зьняважліва — абрэвіятурай РБ. У любым райсавеце Ленін, старыя шыльды і партрэты, а таксама сядзяць тыя ж самыя людзі.

Сёлета вырашаецца лёс беларускай дзяржавы. Калі яна захаваецца да канца года, дык, мабыць, замацуецца і будзе існаваць. Лёс Эўропы будзе вызначацца ў Кіеве і Менску. У нас, аднак, існуе моцная «пятая» калёна. 142 дэпутаты ВС галасавалі за ўключэньне ў павестку сэсіі пытаньня аб канфэдэрацыі або фэдэрацыі з Ра-

**( Працяг на 2 стар.)**

 

 







# Палітыка. Грамадзтва

*● Улада і грамадзтва*

## Бязпраўныя Саветы

За апошнія гады адбыліся, без сумненьня, істотныя зьмены ў палітычным жыцьці Беларусі — абвешчаны сувэрэнітэт, КПБ «адлучана» ад улады ды г. д. Але ці не кожны з нас задае сабе пытаньне, чаму пасьля ўсплеску палітычнай актыўнасьці, зьвязанай з выбарамі ўвёсну 1990 года, наступіла апатыя ды расчараваньне як выбаршчыкаў, так і прадстаўнікоў новага дэпутацкага корпусу? Праблема, напэўна, у тым, што многія дэпутаты, актывісты дэмакратычных партый не зразумелі галоўнага — не зьмяніўшы прававую базу, сістэмы й функцыі заканадаўчай, выканаўчай ды судовай уладаў, простай зьменай «бывших» на дэмакратаў нельга зрушыць працэс рэформ у эканоміцы.

Любыя рэформы павінны мець канстытуцыйнае забесьпячэньне, але, назіраючы дзейні Вярхоўнага Савету ў гэтым накірунку, няцяжка адзначыць іх безсістэмны, непасьлядоўны характар. Хто можа адказаць, ці была прапанавана Вярхоўным Саветам за 3 гады сваім выбаршчыкам сістэма зразумелых і прывабных арыенціраў? Не. Таму што такімі арыенцірамі павінны быць асновы дэмакратычнага, канстытуцыйнага ладу, падмуркам якога зьяўляецца мясцовая дэмакратыя. Чаму існаваньню такога інстытута надаецца вялізарная роля ў адбудове посткамуністычнага грамадзтва на шляху да прававой дзяржавы? Законы прымаюцца вышэйшымі органамі ўлады з тым, каб былі практычна рэалізаваны на ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Зразумела, калі гэтыя нарматыўныя акты не запрацуюць на мясцовым узроўні, ня будзе механізму іх ажыцьцяўленьня, эфектыўнасьць такіх законаў будзе роўная нулю. Таму праблему рэформы сістэмы мясцовых органаў улады трэба вызначыць як адну з самых актуальных.

Абвясьціўшы сувэрэнітэт Беларусі, мы, такім чынам, юрыдычна як бы адмовіліся ад былой сістэмы дзяржаўнасьці, але фактычна жывём у структуры бальшавіцкіх Саветаў. Гэта значыць, што мэтады кіраўніцтва, сістэма функцыянаваньня ўсіх сфэраў грамадзкага жыцьця засталіся ранейшымі. Бязпраўныя Саветы зьяўляюцца сур´ёзным тормазам на шляхах сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, нацыянальнага разьвіцьця Беларусі. Неэфектыўнасьць існуючай сістэмы мясцовай улады відавочна, і гэтая выснова абгрунтоўваецца тым, што:

Сістэма Саветаў па-ранейшаму мае ідэялагічны характар, прызначана для выкананьня палітычных функцый цэнтральных органаў.

Мясцовая ўлада трымалася на дыктаце дзяржаўнай партыі — КПБ. Гэтай ролі КПБ зараз пазбаўлена, але структуры, сувязі, кадры засталіся ранейшыя.

Адсутнічае разьмежаваньне кампэтэнцыі паміж Саветамі розных узроўняў, паміж імі і іх выканаўчымі органамі.

Калектыўная безадказнасьць выканкамаў і Саветаў.

Адсутнасьць крыніц фарміраваньня бюджэту.

Сучасны адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел вядзе да незбалансаванага эканамічнага разьвіцьця рэгіёнаў. Рэформы неабходны па прычынах, перш за ўсё, палітычнага характару, бо ўдзел насельніцтва ў кіраваньні мясцовымі справамі зьяўляецца ўмовай існаваньня дэмакратыі. Па сутнасьці, рэформа — гэта зьліквідаваньне некалькіх вабласьцей, манаполіі дзяржавы.

Гэтую манаполію можна парушыць, перадаўшы мясцовыя грамадзкія справы ў рукі органаў самакіраваньня. Манаполія ў вобласьці дзяржаўнай уласнасьці, якая можа быць парушана шляхам камуналізацыі маёмасьці. Галоўнае палажэньне, якое павінна быць замацавана ў Канстытуцыі — падзел дзяржаўнага кіраваньня й мясцовага самакіраваньня, дакладны падзел іх кампэтэнцыі.

Але відавочна, што існуючы склад Вярхоўнага Савета не зьбіраецца прымаць законы, якія б падрывалі манаполію на ўладу. Таму па-ранейшаму асноўным пытаньнем застаецца падрыхтоўка дэмакратычных колаў да новых выбараў у Вярхоўны Савет. Толькі пасьля гэтага можна спадзявацца на тое, што на Беларусі пачнецца рэальны працэс карэнных зьмяненьняў, пераход на агульнапрынятыя ў разьвітых краінах муніцыпальныя прынцыпы дзейнасьці мясцовых органаў улады — падмурка любой дэмакратычнай дзяржавы.

**А. ПУЧАГОЎ,**
**Беларускі Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў.**

**3 красавіка ў 10 гадзін у памяшканьні Гарадзенскага лялечнага тэатра адбудзецца канфэрэнцыя «Фінансава-эканамічныя асновы самакіраваньня», якую праводзяць Беларускі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі і фонд «Сорас — Беларусь». Запрашаем прыняць удзел у працы канфэрэнцыі дэпутатаў усіх узроўняў, прадстаўнікоў дэмакратычных партый, навукоўцаў, журналістаў і ўсіх ахвотных.**

**Гарадзенская філія Фонду імя Л. Сапегі.**

## Беларускія рэзэрвы Вільні

У нашай гуманітарнай традыцыі прынята лічыць, што з усіх нацыянальных групаў, якія засяляюць Вільню й Віленшчыну, карэнныя толькі беларусы й летувісы. Усе астатнія — палякі, яўрэі, расейцы ды іншыя, менш колькасныя групы, прыйшлі сюды пазьней, ці ў выгнаньне, ці разам з захопамі й калянізацыяй гэтага краю. Але беларусы на Віленшчыне сёньня адзіная нацыянальная група, якая няўхільна зьмяншаецца. Прычыны гэтага — вынішчэньне ўсёй беларускай інтэлігенцыі ў сталінскія часы, пасьляваенная палітыка адчужэньня Віленшчыны ад Беларусі. А найбольш істотная сёньня прычына — поўная няўвага кіраўніцтва РБ да тутэйшага беларускага насельніцтва, фактычнае непрызнаньне яго за сваё і недасьведчанасьць ва ўсёй гэтай праблематыцы. Адбываюцца сустрэчы на вышэйшым узроўні, прымаюцца дэкларацыі пра эканамічнае ды іншае супрацоўніцтвы, падпісваецца міждзяржаўная дамова, але нідзе ў гэтых дакумэнтах ані словам ня згадваецца 60-тысячнае беларускае насельніцтва Летувы.

Зусім нядаўна Летува скончыла будаўніцтва культурнага комплексу для летувіскіх вёсак на тэрыторыі Беларусі. На гэтую справу пайшлі бюджэтныя сродкі краіны. А днямі ўрад Летувы прыняў пастанову выдзяліць у 1993 г. 145 млн. талёнаў на будаўніцтва такога цэнтру ў Сейнах — для летувісаў у Польшчы. Зусім ня кепска пачуваюць сябе летувіскія школы на Беларусі, у Польшчы. Ёсьць сродкі і ёсьць кадры. Настаўнікам-літуаністам, якія працуюць на Віленшчыне, дзе працэнт летувіскага насельніцтва зусім малы, а мясцовае сельскае жыхарства гаворыць па-беларуску, даплочваюць да заробку і ўрад, і амэрыканская летувіская эміграцыя, якая літуанізацыю Віленшчыны разглядае як найпершую задачу.

Статыстыка польскіх укладаньняў у Віленшчыну выглядае яшчэ больш грандыёзна. Гэта многія мільёны злотых з дзяржаўнага бюджэту Польшчы і яшчэ большыя сродкі—ад Палёніі, якія йдуць на шчодрае фінансаваньне школаў, друку, польскай радыёстанцыі і г. д. Польскія арганізацыі Віленшчыны сыцеюць, ствараюць багатыя прэстыжныя ўстановы культуры, на якія з зайздрасьцю пазіраюць гарапашнікі-беларусы. Зрэшты, ня толькі пазіраюць. Многія йдуць на тое, каб перарабіцца на палякаў. Бо, па-першае, ня так цяжка, як на летувісаў, а па-другое, пэрспэктыўна. Але перарабляюцца й на летувісаў таксама. Гэтак ідзе літуанізацыя й палянізацыя віленскіх беларусаў. Але было б глупствам абвінавачваць у гэтым улады Летувы й Польшчы. Яны проста думаюць пра сваіх. Больш таго, усё, што сёньня маюць віленскія беларусы (нейкія памяшканьні для зборак, кафэдру ў пэдагагічным унівэрсітэце, тэле-й радыёперадачы й г. д.), яны маюць дзякуючы маральнай і матэрыяльнай падтрымцы Летувы.

Зразумела, што такой падтрымкі недастаткова. І беларусы, якія ня хочуць або ня могуць асіміляваცца ці ня вераць, што здолеюць існаваць тут як беларусы,— выязджаюць. Летась, калі ў Летуву з Беларусі прыехала 744 чалавекі (у 1991-м — удвая больш), з якіх уласна беларусаў — толькі 417, дык выехала на Беларусь 6206 (у 1991-м — 4072), беларусаў 3475. Агульная карціна нацыянальных групаў у цяперашняй Летуве выглядае так: з усіх 3751 тыс. чалавек 3016 тыс.— летувісы, 326 тыс.— расейцы (8,7%), 263 тыс.— палякі (7,1%) 59 тыс. беларусаў, 40 тыс. украінцаў, каля 7 тыс. яўрэяў.

Такім чынам, працэс страты Вільні для Беларусі, які быў запушчаны ў савецкія часы, працягваецца. І, як бачым, не летувіскі бок выступае ягоным ініцыятарам. Аніводнага ў афіцыйным парадку прысланага спэцыяліста, ані капейкі ўкладаньняў, ані каліва разуменьня важнасьці гэтага рэгіёну для станаўленьня незалежнае Беларусі... Вось рыкнуць: аддавай Вільню! — у Менску могуць. Ніяк не разумеючы, што адабраць — гэта яшчэ ня значыць прысвоіць. І наадварот. Гэты горад са шматнацыянальнай традыцыяй бясконца страціць, страціўшы хоць аднаго ўдзельніка свайго культурнага жыцьця. Быццам прадчуваючы гэта, ён каторы раз пасьля поўнага, здавалася, вынішчэньня знаходзіць у сабе самім нейкія беларускія рэзэрвы. Вельмі ўжо слабыя і, магчыма, апошнія.

**Алесь ПАШНЯКОЎ.**

*● Сустрэчы*

## Такі блізкі ... Ізраіль

Цяжка пісаць пра яўрэяў. Асабліва калі пра іх столькі ўсякага напісана. У навуковай літаратуры і папулярных зборніках накшталт сумнавядомага «Дары данайцаў» давалі «прыкурыць» сусьветным сіяністам, махровым «жыдамасонам», змоўшчыкам і крывасмокам-крывахлёбам. Хіба што і гэты чалавек, пра якога пойдзе гаворка, да нядаўняга часу афіцыйнай прапагандай залічваўся ў шэраг небясьпечных агентаў Сіёну...

У памяшканьні Гарадзенскага тэатра лялек адбылася сустрэча мясцовага яўрэйскага насельніцтва з намесьнікам міністра абсорбцыі Ізраіля. Трэба сказаць, што асоба такога рангу зьявілася ў нашым горадзе ўпершыню, але, на дзіва, народу ў зале было толькі ў партэры... Можа, інфармацыя спрацавала дрэнна... Дасьціпны, гаваркі нам. міністра, седзячы на сцэне, распавядаў прысутным пра ўмовы жыцьця ў Ізраілі, пра тое, хто колькі атрымае, калі прыедзе туды, шэкеляў дапамогі, пэнсіі і г. д. Мы з прыяцелем Леанідам Гезойнар, седзячы на балконе, адчувалі, як заварушыліся ў людзей унізе мазгі, і пачалася няхітрая арыфметыка: шэкель да шэкеля-два шэкелі. Людзі падабрэлі, распрэнжыліся, атмасфэра ў зале квітнела дый пахла ажно да недарэчнага пытаньня аднаго грамадзяніна: колькі ў Ізраілі каштуе кватэра? Спадар Машэ адказаў: адзін квадратны мэтр жыльлёвай плошчы каштуе тысячу даляраў (!), у іншых месцах — дзьве тысячы (!!), а ў некаторых — 500 даляраў (!!!). Каментарый, як кажуць, непатрэбны...

І ўвогуле, трэ адзначыць, што пытаньні былі падобныя адно да другога, як курыныя яйкі: ці можна прыехаць у Ізраіль сваім самаходам? Якія ільготы належацца тым, хто быў у эвакуацыі? Якімі ільготамі карыстаюцца ў Ізраілі вэтэраны вайны? Ці можа атрымаць ў Ізраілі працу кандыдат тэхнічных навук шасьцідзесяцігадовага ўзросту? Што тычыцца адказу на першае і апошняе пытаньні: так, але кандыдат навук павінен абавязкова ведаць іўрыт — дзяржаўную мову Ізраіля (а як бы вы хацелі?), і ангельскую! Бедная наша краіна, у якой кандыдатам навук можна было стаць, ня ведаючы ангельскай, але ведаючы усялякія «ізмы»!

А што тычыцца пытаньняў пра ільготы, то высокі ізраільскі госьць вельмі цярпліва тлумачыў прысутным, што ільготы-то канешне ёсьць і будуць, але нарэшце не вытрымаў... І пажартаваў, горка, дарэчы: ведаеце, я вельмі зьдзівіўся б, каб пачуў пытаньне. «Што я асабіста магу зрабіць для Ізраіля?»

Вечар пытаньняў і адказаў скончыўся. Нам было крыху непрыемна за тое, пра што на ім пыталася і адказвалася, і мы запрасілі высокага госьця ў кавярню «Батлейка» на каву, патлумачыўшыся, што мы славяне, а не яўрэі, але нам бы вельмі не хацелася, каб яўрэі адсюль ад´язджалі... І пачалася размова, трошкі іншая... Грала кружэлка з запісамі вядомай польскай яўрэйкі, акцёркі Голды Тэндэр, мы гаварылі пра талерантнасьць у ВКЛ і пра Ісака Башэвіча Зінгера, пісьменьніка, лаўрэата узнагароды Нобля, пра сёньняшні Ізраіль і сёньняшнюю Беларусь. Спадар Машэ, параўноўваючы сітуацыю яўрэяў на Украіне, Расеі і на Беларусі, прызнаў, што тут яўрэі жывуць вельмі заможна і таму ня хочуць ад´язджаць на гістарычную Радзіму... Нас гэта усьцешыла, асабліва, што добра жывуць...

Мінула з паўгадзіны, яму трэ было адыходзіць. Ён падараваў нам на памятку аб сустрэчы тры сваіх апошніх шэкелі. Паціскаючы высокаму госьцю руку, я разьвітаўся традыцыйна: «Як кажуць у вас у Ізраілі, у наступным годзе ў Ерусаліме». «Не,— далікатна паправіў ён мяне,— у гэтым годзе!»

Сяджу я і думаю: а можа быць, і ў гэтым...

**В. ШАЛКЕВІЧ.**

## Уцякаюць з лесапавалу

У папярэднім нумары мы паведамілі аб тым, што гарадзенцаў вярбуюць палякі пляжыць згарэлыя лясы ў Позначаньскім ваяводзтве і што зарабіць на гэтай працы магчыма да 700 даляраў у месяц. Паводле апошніх зьвестак большасьць гарадзенцаў уцякла з лесапавалу. Прычына ў тым, што пілуюць дрэвы палякі самі, зарабляючы на гэтым па 20 млн. злотых. Нашым дасталося абсякаць з камлёў сучкі, й плацяць за такую працу адпаведна небагата. Зноў атрымалася, што добра там, дзе нас няма.

**(спадар).**




 

# Культура. Спорт




## На каляскі інвалідам

Дабрачыннасьць стала добрай традыцыяй у Гарадзенскім аграпрамысловым банку. Днямі тут прайшла акцыя па збору сродкаў, якія будуць накіраваны на закупку інвалідных калясак. Раней аграпрамаўцы зьбіралі грошы для адзінокіх і састарэлых.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Бібліятэкары вучаць мову

Штотыднёва пачала выкладацца беларуская мова ў Гарадзенскай бібліятэцы імя Макаёнка. Бібліятэкары робяць гэта шляхам вывучэньня твораў класікаў беларускай літаратуры. Нядаўна тут праслухалі курс лекцый па творчасьці У. Караткевіча, зараз штудыруецца літаратурная спадчына В. Быкава, Р. Барадуліна і іншых вядомых беларускіх творцаў.

**Г. ПЯТРЭВІЧ.**

## Палякі плоцяць зялёнымі

Каб хоць крыху палепшыць сваё эканамічнае становішча, гарадзенскія стаматолагі пачалі абслугоўваць палякаў, беручы з іх за паслугі далярамі. Паставіць звычайную каронку ім каштуе шэсьць «зялёных», а больш складаная артапэдычная апэрацыя — сорак.

## Дзённы стацыянар

Незвычайнае аддзяленьне пачало дзейнічаць у гарадзенскім ТМА-2. Яно мае назву «дзённага стацыянара»,— распавяла карэспандэнту «Пагоні» галоўны лекар ТМА спадарыня Т. Гарэлава. У ім лякуюцца людзі, якіх раней называлі амбулаторнымі хворымі. Але, як вядома, хвораму чалавеку непажадана пасьля працэдураў адразу ісьці на вуліцу. Таму, каб хворы мог пабыць болей часу пад наглядам спэцыялістаў, і створана вось такое аддзяленьне.

**Г. ВАСІЛЕВІЧ.**

## Новы блёк

У вабласным клінічным шпіталі ўпраўленьнем «Гроднапрамбуд» узводзіцца новы мікрахірургічны блёк. Ён разьлічаны на тры апэрацыйных і адну лазэракугаляцыйную залу. Спэцыфічнае абсталяваньне — мікраскоп, лазэрныя скальпелі, іголкі для зшываньня ранаў — набываюцца ў Нямеччыне.

## З дыплёмам урача ў фельчары

Страціўшы надзею атрымаць працу па спэцыяльнасьці, нядаўнія выпускнікі Гарадзенскага дзяржаўнага мэдыцынскага інстытута, каб не застацца без сродкаў існаваньня, ідуць працаваць на пасады сярэдняга мэдыцынскага персаналу.

Некалькі з іх змаглі ўладкавацца ў гарадзенскім ТМА-2, дзе працуюць мэдсёстрамі ці фельчарамі, спадзяючыся з цягам часу атрымаць працу па спэцыяльнасьці.

**Г. ВАСІЛЕВІЧ.**

● *Мастацтва*

# Каляровыя «плямы» на шэрых сьценах

Выстава жывапісу пад такім назовам пачала працаваць 3-га сакавіка ў менскім музэі Максіма Багдановіча. На ёй выстаўлены працы... клавішніка й вакаліста вядомага рок-гурта «МРОЯ» Лявона Вольскага, а таксама бас-гітарыста з «Чыстага срэбра» Алега Паганіні. Што тычыцца Лявона, дык шырокі дыяпазон ягонага творчага самавыяўленьня нам даўно вядомы: прозу яго мы чыталі й у «Крыніцы», і ў «Нашай Ніве», і ў «Бярозцы»; паэзію нядаўна надрукаваў полацкі «Ксэракс»; мы слухаем яго аўтарскую перадачу «КВАДРАКОЛА» па «Беларускай маладзёжнай», як таленавітага рок-музыку яго ведаюць усе. Пра тое, што ён яшчэ й мастак, мы толькі чулі. А зараз можам, нарэшце, й паглядзець.

Што можна сказаць, паглядзеўшы карціны Лявона? Часам — гэта наўмысны прымітывізм, хаця зроблены так, што адчуваецца вялікі патэнцыял. Калі б гэтыя карціны трывіяльна, як робіцца паўсюль у нас, разьвесіць па сьценах, надзвычайнага здарэньня ў сьвеце мастацтва гэтая выстава не зрабіла б. Што ж прымусіла мастакоў, якія прысутнічалі на адкрыцьці, сказаць, што гэта першая ў Менску выстава, у якой атрымалася дамагчыся гарманічнага лагічнага завяршэньня? Вырашэньне ўсёй унутранай прасторы выставачнай залы. Вось тут і сказаўся талент Вольскага — музыканта, майстра аранжыроўкі.

Зала, заплеценая ў павуціньне. На карцінах — вертыкальна вісяць біркі з назовамі. У адной з нішаў — манекен у рваных джынсах і з сіняй электрычнай лямпачкай замест носа. Загадкавы бел-чырвоны аб´ект на абмотаным чорнымі ніткамі тумбе. «Там, дзе страхі жывуць»,— як сказаў мой чатырохгадовы сын. Усё тое, што разам стварае АТМАСФЭРУ. Заходзіш у залу, а трапляеш у нязнаны сьвет, які завецца «канцэптуальным мастацтвам». І карціны на сьценах тут — толькі каляровыя плямы мастацтва сьветаўспрыняцьця ў графічным шэра-чорным інтэр´еры.

Але каб цалкам зразумець сэнс гэтых «плямаў», трэба было пабываць на адкрыцьці выставы. Лявон Вольскі ў чорным фраку граў на аргане, Алег Паганіні — на гітары. І ўсё навакольле, і жывая музыка стварылі адну гарманічную ІМПРАВІЗАЦЫЮ.

Фуршэта не было. Не было ніякіх словаў. Была музыка. Камбінаваная музыка мастацтва. Прысутныя пераходзілі ад адной карціны да другой. Зьмяняліся вобразы, зьмяняліся гукі. Тут быў і рок-н-рол, і блюз, і шчырая псыхадэлія. Фуршэта не было. Адно Кася Камоцкая наліла ўсім па глытку салодкае гарэлкі з Польшчы, пляшку якой перадалі на адкрыцьці ад сусьветнавядомага беларускага мастака з беласточчыны Лёніка Тарасэвіча.

Публіка сабралася разнастайная: і рокеры, і літаратары, і мастакі. Была «Беларуская маладзёжная» і ММ-4. Здымалі й з БТ. З-за інтэр´ю Лявону й Алегу было цяжка прабіцца да інструмэнтаў. Публіка сабралася разнастайная. Але ніхто не адчуваў сябе чужым, нават хлопец і дзяўчына з далёкае Даніі, якія таксама былі тут.

Выстава, відавочна, атрымалася. І гэта яшчэ раз даказвае, што ў творчай асобы ня можа быць мяжы ў самаўвасабленьні. Усё ў тваіх руках. Калі ты адчуваеш у сабе сілы, дык ня варта прытрымлівацца толькі нейкай «гэнэральнае лініі». Гэта даказвае й Алег, у якога на кожную з ягоных вельмі ўдалых карцінаў напісаны верш. І на гітары ён грае класна. Дый каратэ займаецца. А наконт сярэдняга посьпеху ва ўсім? Я думаю, ў яго яшчэ вельмі шмат часу разабрацца ў сабе самому.

У неабмежаванасьці творчага выяўленьня заключаецца сапраўдная свабода мастака. А «МРОЯ», я думаю, ня згубіць у сваёй папулярнасьці з-за таго, што ў яе такі вакаліст. А толькі выйграе.

Варта дадаць, што выстава наўрад ці адбылася б, каб не дапамога хлопцаў з гарадзенскага банка «КОМПЛЕКС».

**Алесь А.**
**Менск.**

● *Конкурсы*

# Журы страціла свайго члена

Для мяне знаёмства з беларускай бардаўскай песьняй пачалося з абвесткі ў фае студэнцкага інтэрнату БПІ: маўляў, адбудзецца лекцыя Вінцука Вячоркі на тэму «Песьні беларускіх бардаў». Пакуль што толькі з лекцыяй, а не з самой песьняй. То было ў 1983 годзе. А калі чэсна — дык не з самой лекцыяй, а толькі з абвесткай пра яе. На лекцыю я не пайшоў.

А потым былі няабчасаныя песьні Сокалава-Воюша, на заўсёды забароненых мітынгах і на зборках у Доме літаратара. І там жа — у ДЛ, раз-пораз — эстэтныя, мілагучныя й прафэсійна выкананыя песьні Алеся Камоцкага.

А потым пачалі мацнець спалохі нацыянальнага адраджэньня. І шчытнымі шэрагамі ва ўлоньне бардаўскае песьні пайшлі ўсе, хто хоць калі трымаў у руках гітару. Трэбы было несьці беларушчыну ў масы найбольш даступнымі сродкамі. А потым прыйшло разуменьне таго, што кожны павінен займацца сваёй справай. Эканамічныя праграмы павінны складаць не філолагі, а эканамісты. Песьні павінны сьпяваць сьпевакі, а не... той, хто трымаў пару разоў у руках гітару.

Пазьней прыйшло новае пакаленьне «адраджэнцаў». Гэта моладзь, выхаваная адно на прыкладах старэйшых сяброў, а таксама той, хто перабраўся ў Менск з правінцыі й не пасьпеў у свой час пакаштаваць «вялікага зараду нацыянальнага жыцьця — у межах, аднак, вялікае залы». Яны вырашылі гэты недахоп кампенсаваць **размахам.**

У лютым у менскім Доме літаратара адбыўся ЎСЕБЕЛАРУСКІ конкурс бардаў. Было прызначана ганаровае журы, у склад якога быў запрошаны сам Уладзімір Мулявін. Лішне казаць, што славуты мэтр на конкурс так і не зьявіўся.

У сераду, у першы дзень конкурсу, трэба было адабраць з пяцідзесяці ўдзельнікаў (а ўсяго было заяўлена на конкурс шэсьцьдзесят бардаў) асноўную групу, якая павінна была ў чацьвер распачаць барацьбу за тры грашовыя прэміі: дваццаць пяць, пятнаццаць і дзесяць тысячаў рублёў адпаведна за першае, другое й трэцяе месцы. Што й казаць, дзень быў цяжкі. Кожны сьпяваў па адной песьні. Прыярытэт аддаваўся тым, хто сьпяваў песьні на ўласныя вершы. Гэта вельмі моцна паўплывала на склад удзельнікаў, адабраных у другі тур. У асноўным тыя, хто спадабаўся слухачам, у яго так і ня трапілі.

Найбольш аб´ектыўным членам журы быў Анатоль Сыс, які не саромеўся ставіць двойкі за відавочнае графаманства ў тэкстах. Апошнім з пяцідзесяці ўдзельнікаў выступаў «бацька бруднага беларускага блюзу» Віктар Шалкевіч. Хутчэй за ўсё гэта было зроблена наўмысна, бо шмат хто з менчукоў прыйшоў на конкурс з-за яго выступленьня, жадаючы пабачыць на сваё вочы сьпевака, які стварыў такі ажыятаж на апошнім «Басовішчы». Яны дачакаліся й не памыліліся. Віктар атрымаў найбольшую колькасьць апладысмэнтаў, яго выклікалі «на біс». Але разгубленага сьпевака сагнаў са сцэны вядучы, спаслаўшыся на ўмовы конкурсу: маўляў, ідзіце куды-небудзь, там і слухайце. Так скончыўся першы дзень конкурсу.

У другі тур трапілі васноўным людзі практычныя. Кожны з іх ведаў, куды пусьціць грошы ад прэміі: хто набудзе сабе новыя боты, хто заплоціць частку пазыкі за каапэратыўную кватэру, атрыманую у СП. Недарэчна пачуваўся тут Алесь Камоцкі, які й папрасіў журы ня ставіць яму адзнакі, а ацэньваць, так бы мовіць, маладых. Яго падтрымаў Анатоль Сыс. Але тут устаў другі член журы — Леанід Дранько-Майсюк, і прынцыпова заявіў, што калі сьпявае, дык трэба ставіць адзнакі. Можа, гэта й ня было з лепшых выступленьняў Алеся Камоцкага, але прафэсіянал — ёсць прафэсіянал. Адзнакі былі «чатырыпяць». Леанід Дранько-Майсюк паставіў «тры». Гэта было настолькі недарэчна, што Анатоль Сыс, вядомы сваім гарачым характарам, выкінуў у залу карткі з лічбамі й сказаўшы, прыкладна «Судзіце самі!», выйшаў. Пасьля кароткае замінкі вырашылі выкрэсьліць папярэднія адзнакі Анатоля выканаўцам і лічыць колькасьць журы на аднаго чалавека меней. Гэты інцыдэнт даў падставу для ўзьнікненьня сярод практычных людзей меркаваньня, што Сыс спадзяваўся на першую прэмію Алеся Камоцкага, якую яны, быццам бы, павінны былі разам «замачыць». Як кажуць праваслаўныя браты: «Благими намерениями дорога в ад вымощена».

Але што б там ужо не рабілі, пасьля гэтага эпіцэнтр падзеяў канчаткова перамясьціўся ў бар, які неўзабаве зноў пачаў працаваць у камінняй зале Дома літаратара. Адно можна сказаць, што першую прэмію атрымаў Алег Атаманаў, другую — Едрусь Акулін, трэцюю — Вольга Цярэшчанка.

Гала-канцэрт, які быў прызначаны на пятніцу, кажуць, не адбыўся.

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**Менск.**

## Бронза Аляксея Пракапішыка

Удала дэбютавалі на чэмпіянаце сьвету па культурызму ў Турцыі беларускія атлеты. Нашы хлопцы выступалі ў пяці вагавых катэгорыях. Двое з іх — А. Пракапішык і С. Дубко — дайшлі да фіналу, дзе Аляксей дабіўся бронзы, а Сяргей заняў пачэснае пятае месца.

## Зборня Горадні здае пазіцыі

Няўдала выступіла на другім фінальным туры нацыянальнага першынства Беларусі па баскетболу ў Гомлі зборня нашага горада. Нашы баскетбалісты прайгралі дзьве гульні запар сваім асноўным сапернікам у барацьбе за бронзавыя мэдалі. З чатырма перамогамі ў дзесяці сустрэчах яны займаюць перадапошняе пятае месца турнірнай табліцы.

**(аа).**

